


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (1153) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 2 КРАСАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

## УЛЮБЛЁНЫ Ў НАШУ ПРЫРОДУ



*У. Пухальскі пятнаццаць год таму назад у часе аднаго са сваіх „паляванняў“ у дрыгвястай тапелі над ракою Нарвай.*

На ўсіх тых, хто наведаў фатаграфічную выстаўку **Уладзімежа Пухальскага** „Прырода Беластоцкай зямлі“, што экспанавалася ў другой палове месяца лютага бягучага года ў Клубе міжнароднай прэсы і кнігі ў Беластоку, яна пакінула незабыўнае ўражанне. Усё ў ёй мела прызнакі фенаменальнасці: і асоба аўтара-фатографа, і яго выканаўчае майстэрства, і, зразумела, краса прадстаўленай ім прыроды Беласточчыны.

Ураджэнец горада Львова, У. Пухальскі выбраў сабе ў юнацтве зусім не гарадскі напрамак будучай працы — закончыў сельскагаспадарчы факультэт Львоўскай палітэхнікі. Ужо з дыпломам магістра інжынера захапіўся фатаграфіяй. Абвешаны апаратамі, пачаў ганяцца па палях ды хмызняках за... дзікімі птушкамі. Але тое, што іншыя людзі ўспрымалі, далікатна кажучы, як дзіўныя схільнасці маладога чалавека, неўзабаве аказалася экзатычнай краінай, дзе спалучыліся ў адзінае цэлае прыродазнаўчыя навукі і фатаграфічнае мастацтва, а У. Пухальскі стаў адным з першых яе адкрывальнікаў не толькі ў маштабах Польшчы, дзе ён з'яўляецца першастваральнікам прыродазнаўчых фотаграмаў і кінафільмаў. Яго працы, пачынаючы з 1924 года, паяўляюцца вось ужо звыш пяцідзесяці год таксама ў часопісах і кнігах, прысвечаных мастацтвазнаўству, як і ў выключна прыродазнаўчых выданнях.

Пасля вайны на сталае жыхарства ён выбраў сабе забытую богам і людзьмі вёсачку Морусы каля Тыкоціна. Вось ужо трыццаць з лішнім год не можа нацешыцца гэтым куточкам над дрыгвястай поймай ракі Нарвы.

— Звязаўся я з Беластоцкай зямлёй і шчыра яе пакахаў, бо яна нагадвае мне найбольш мае ўлюбёныя ваколіцы з дзяцінства, — заўважае У. Пухальскі. — Беластоцкая прырода, яе непаўторнай чароўнасці жывёльны і раслінны свет з'яўляюцца фонам у многіх маіх працах і часта галоўнай тэмай, невычэрпнай крыніцай для ілюстрацыі маіх амаль што ўсіх фотаграмаў, альбомаў і кінафільмаў, якія я ўвесь час рыхтую.

І праўда ж! У. Пухальскі не пашкадаваў намаганняў і не паскупіў таленту, каб адлюстраваць і ўславіць красу беластоцкай прыроды. Сярод рэалізаваных ім дагэтуль 50 кінафільмаў і выдадзеных 25 альбомаў выдатнае месца займае наш рэгіён, возьмем, для прыкладу, такія яго працы як: „Белавежская пушча“, „На поймах Нарвы і Бебжы“, „Год у пушчы“ і іншыя, а таксама многія фотаграмы ў выданнях: „Бескрывавае паляванне“, „Сярод чароту і вады“, „Партрэт звяроў“, „Звяры нашых лясоў“, „Нашыя птушкі“ і г.д. На адзначанай выстаўцы ў Беластоку было паказана звыш 200 фотаграмаў, на якіх красаваўся амаль увесь жывёльны свет нашага рэгіёна ад малюсенечкага павучка да волата-зубра. І кожны з гэтых фотаграмаў з'яўляецца своеасаблівым шэдэўрам.

Несумненна тое, што У. Пухальскі карыстаецца самым дасканалым фатаграфічным абсталяваннем, вядома таксама, што ён мае багацейшы выбар самых леп-

(Працяг на стар. 4)

## ЗЯМЛЯ, КРОЎЮ АБМЫТАЯ

Гэта недалёка ад Беластока. Першы аўтобусны прыпынак па дарозе ў Гарадок і Міхалова. Знаходзіцца тут калонія Грабаўка, а вакол расце дрымучы лес.

У зімовы дзень спакойна тут і ціха. Толькі снег скрыпіць пад ботамі, быццам адгукваецца застыўшым плачам, быццам енкам дасмяротным успыхвае.

Бо гэта зямля абмыта крывёю, крывёю 16 тысяч палякаў, рускіх, беларусаў, яўрэяў... Так прынамсі апавяшчае помнік, устаноўлены пасля вайны. Дакладна аднак ніхто не ведае, колькі чалавек у апошні раз глядзела на гэтыя сосны і бярозы.

Тут, ва ўрочышчы Воўчы Груд, гітлераўцы абсталявалі сваю катоўню. На працягу трох гадоў — ад чэрвеня 1941 года да ліпеня 1944 года, амаль кожны дзень прывозілі яны на расстрэл вязняў беластоцкай турмы. Здаралася, аднак, што гітлераўцы адразу везлі свае ахвяры ў Воўчы Груд, мінаючы Беласток і там іх расстрэльвалі.

Акруговая камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку толькі за мінулы год выслухала і занатавала паказанні 600 сведкаў. Даследавана амаль сто розных спраў. 44 справы камісія перадала ў Федэратыўную Рэспубліку Германіі з прапановай пакараць злачынцаў, бо там многія з іх спакойна жывуць.

У гэтай краіне, аднак, суды па справах аб ваенных злачынствах не спяшаюцца. Вядома, што ад канца 1979 года, згодна з законам ФРГ, усе суды і пракуратура гэтай краіны будуць без разгляду адхіляць усе справы аб ваенных злачынствах па прычыне іх даўнасці. Таму чакаюць, таму вынаходзяць самыя адмысловыя, найчасцей фармальнага роду прычэпкі, каб толькі адцягнуць прыгавор, каб заблытаць справы зусім ясныя. 560 заходнегерманскіх пракурораў, суддзяў і адвакатаў прыязджала да нас, каб правяраць паказанні нашых грамадзян, 60 разоў наладжвалі яны вочныя стаўкі на месцах злачынстваў. 600 сведкаў прыйшлося нам высылаць у ФРГ, бо судам гэтай краіны не хацелася верыць у тое, што яны пад прысягай сказалі прадстаўнікам польскага правасуддзя. А ўсё гэта цягнулася, зразумела, цэлымі гадамі.

Паводле дакументацыі Галоўнай камісіі па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы, аж 5 мільёнаў немцаў прымала непасрэдны ўдзел у масавым вынішчэнні польскага народа. На іх руках наша кроў. Пакарана ў судах ФРГ не больш 50 тысяч ваенных злачынцаў. Пакарана, быццам на смех. За смерць некалькіх дзесяткаў ці некалькіх тысяч чалавек справядлівасць ФРГ выносіла прыгаворы па некалькі гадоў турэмнага зняволення. Рэдка

(Працяг на стар. 2)

## У ГАСЦЯХ НАД ШПРЭВЯЙ

У старажытным славянскім горадзе Будзішыне, там, дзе неспакойная Шпрэвя няспынна булькоча пад старымі мурамі ўзнёслай колішняй крэпасці, і сёння гучыць славянская мова. Тут жывуць лужычане, невялікая група заходніх славян, якія самі сябе называюць яшчэ сербамі. Аб існаванні тут славян прыгадваюць і двухмоўныя назвы вуліц, а вакол старой крэпасці, уздоўж замшэлых муроў вядзе маляўнічая сцежка для закаханых і для турыстаў, якая завецца па-лужыцку Ютровы пуць (Велікодная дарога).

Велікодная сцежка ўводзіць турыста праз сярэдневяковую арку на старадаўнія могілкі з храмам святога Мікалая, дзе яшчэ нядаўна хавалі паважаных і знатных лужычан, кіруе на старое замчышча з багатым гістарычнымі падзеямі замкам Ортэнбург і выводзіць на абрывістыя берагі Шпрэві, проста да старажытнай Воднай махіны, якая сёння стала музеем старадаўняй тэхнікі.

Мінуўшы стары горад, даходзім проста да Сербскага дома. Гэта ўжо сённяшні дзень лужычан, хоць у Доме і месціцца музей гісторыі і літаратуры старога славянскага народа.

Нягледзячы на доўгія гады анямечвання, асабліва ў змрочныя часы фашызму, лужычанам удалося, пры значнай дапамозе чэхаў і палякаў, захаваць сваю культуру, звычаі, традыцыі.

Толькі ў пасляваенны час, ва ўмовах Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, лужыцкі народ атрымаў шырокую магчымасць развіваць сваю нацыянальную культуру. Па сённяшні дзень у будзішынскай акрузе існуюць чатыры віды нацыянальных касцюмаў (у іх можна яшчэ сустрэць старэйшых жанчын нават на вуліцы, асабліва ў святы). Лужыцкія песні і танцы праслаўляе на ўвесь свет Дзяржаўны ансамбль песні і танца, тут жа, у Будзішыне, працуе нямецка-лужыцкі драматычны тэатр. Амаль ва ўсіх мясцовасцях, дзе жывуць лужычане, існуюць народныя самадзейныя хоры як дарослых спевакоў, так і моладзі. Наогул лужычане вельмі любяць і ўмеюць спяваць.



*Старыя муры Будзішына.*

Асаблівую ролю ў распаўсюджванні лужыцкай культуры, літаратуры, усёй народнай творчасці спаўняе выдавецтва „Дамавіна“ (Айчына). Гэтая, вельмі рухлівая выдавецкая ўстанова выдае вельмі многа як на лужыцкай мове, так і на нямецкай аб лужычанах. З беletрыстыкі нельга не ўспомніць аб шматтомных выданнях уласных класікаў, аб шматлікіх перакладах цікавейшых аўтараў сусветнай літаратуры на лужыцкую мову (дарэчы, тут ужо выдадзена ў перакладзе на лужыцкую мову кніжка „Болек і Лёлек“, хоць у Польшчы гэтая кніжка толькі рыхтуецца да друку). Сярод навуковых выданняў — „Гісторыя лужыцкая“ — чатырохтомнік, „Сербскія народныя касцюмы“ і іншыя. Усё гэта ў цудоўным афармленні і на высокім выдавецкім узроўні. Наогул, па мастацкім узроўні кніжкі выдавецтва „Дамавіна“ займаюць у ГДР адно з першых месц.

(Працяг на стар. 5)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

## ПЕРАПЫНЕНАЯ РАЗМОВА ДВУХ

Пугаўка гаварыў яму, Маляўіцкай Кабыле:

— Каб ты ведаў тое, колькі іншых дзеянняў папярэджвае пастанову, якую я прымаю як дырэктар!?

— Дарагі, не баналь... На, падпішы паперку і ўсяму будуць капцы.

— Я не магу так, адразу, ну...

Сядзелі, яны, насупраць адзін другога. За сцяною — цубаніў позні дождж і на вятрыску грукацела вадасцёкавая труба, дзесьці ўзбоч ад нуднага неона „Прадуктовы".

Маляўіцкая Кабыла маўчаў, вырачыўшыся на Пугаўку, які паўтарыў:

— Я не магу так...

Яны адначасова ўздыхнулі, кожны па сваёй прычыне.

— Што гэта табе на мазгі ўпала, чаравік ты?

Пугаўка зморшчыўся:

— Ты, мабыць, п'яны?

— Каб ты гэта так здаровы быў, як я зараз цвярозы!

Паганы настрой пачаўся ад раніцы, ад дрэннага надвор'я, імглістага.

— Зробім па чарцы, га? — спытаў Маляўіцкая Кабыла.

— Я ж не п'ю.

— Вып'ем „Баржомі", лайце безграшовы.

— Не гавары да мяне гэтак. Я не люблю таго.

— Мінералка здаровіць жывот. Зразумей тое, мужык ты.

— Ідзі сабе ты, перастань дурыць мне галаву, — зазлаваў Пугаўка.

Не, Маляўіцкая Кабыла не з тых, каго можна лёгка абразіць ды пазбавіцца; ён настойлівы.

— Чакай, не гарачыся. Я да цябе — за справай, а ты б'еш у хамут. Будзе — і мне, і табе... Падпішы, чуеш?

— Аб чым ты гэта?

— Не, дык не...

— У мяне няма часу.

— Думаеш, у мяне ёсць?

— Ну хопіць, — Пугаўка зрабіў позу тонкай энергічнасці. — Да пабачэння.

Маляўіцкая Кабыла аціх, быццам хуліган, які знянацку дастаў па зубах ад сваёй ахвяры. Падумалася яму: „Няўжо ён пранюхаў?"...

— Ты спяшаеш кудысьці? — уважліва прыглядзеўся да Пугаўкі зрокам таго начэплівага чалавека, што, нечакана самому сабе, убачыў у свайго размоўцы новыя, лепшыя якасці.

— Не, — адказаў ён Маляўіцкай Кабыле коратка, як камусьці малафарматнаму.

— Гэ-гэ, касмічнае становішча. — Трэба было разумець гэта наступным чынам: немагчыма за што-колеч ухапіцца.

Адзін з іх павінен устаць і развітацца. У данай сітуацыі не было б так важнае — менавіта — хто, хоць зусім натуральнае тое, што павінен зрабіць гэта Маляўіцкая Кабыла.

— Што ж: толькі напісанае застаецца...

Пугаўка ўжо нічога не адказаў Маляўіцкай Кабыле. І ён, Маляўіцкая Кабыла, цейк памутнеў; апусціў вушы; пахарашэў, можна сказаць, далікатнымі рысамі твару, што праявіліся на ім ад няўдачы.

Маляўіцкая Кабыла не спадзяваўся такога рэагавання Пугаўкі. Ён ад таго нават, даволі свавольна, усміхнуўся да яго, яшчэ раз выбліснуў радасцю, быццам сонейка, якое заходзіць за пахмурны небасхіл. „Э-э-э-эгэ-гэ-э, — хацеў, здавалася, азвацца Маляўіцкая Кабыла. — Ты, Пугаўка, ужо разжыўся, аказваецца, на начальніцкія гуморы. Ну і ну, не чакаў я таго, братка. Не-а. Эгэ-гэ-гэ-ээ, не адзін свет змяняецца, але і людзі на ім..."

Каб не прамарноўваць час, ён вырашыў, што неадкладна наведае Булаву, уладзіць з ім іншае, няхай сабе і ў запас. „Вунь колькі прырода патраціць крылатага насення, пакуль вырасціць аднаго клёніка!..." — паглыбляўся Маляўіцкая Кабыла, выходзячы з даваеннага будынка дырэкцыі прадпрыемства па закупках утыльсыравіны і накіроўваючыся ў бок Гандлёвай вуліцы. У сераду пад абед.

**С. Яновіч**

**САКРАТ ЯНОВІЧ** нарадзіўся ў 1936 годзе ў Крынках. Закончыў электратэхнікум, затым завочнае аддзяленне беларускай філалогіі Настаўніцкай студыі ў Беластоку і польскую філалогію Варшаўскага універсітэта.

Працаваў электраманцёрам, карэктарам, журналістам, асветным інструктарам. Цяпер з'яўляецца загадчыкам беластоцкага аддзела Ольштынскага выдавецтва „Паазер'е" і старшынёй Клуба Саюза Польскіх пісьменнікаў у Беластоку.

Дэбютаваў у 1956 г. на старонках „Нівы" апавяданнем „Гнілое ў здаровым". Выдаў кніжкі „Загоны" (БГКТ, 1969) і „Wielkie miasto Białystok", (Iskry, 1973). У гэтым годзе выйдуць з друку: „Zapomnieliska" (Ossolineum), „Сярэбраны яздок" (Мастацкая літаратура, Мінск), „Сцяна" (Pojezierze) і яго пераклад на польскую мову „Вітражоў" Янкі Брыля. Падрыхтаваны да друку аповесці: „Самасей" і зборнік новых апавяданняў (Czytelnik).

**(яч)**



## Маё прыстанішча

Калі я ўжо маю даволі спраў, тэлефонных званкоў ды дзелавых гутарак, ад якіх пачынаецца галаўны боль, зацьменне ўваччу, уяўляю сабе тады малінік колішняй нашай суседкі Чабаніхі. Гэта дае мне ціхалістае супакаенне. Як прадчуванне, што ў мяне ўсё-такі будзе сябар.

І аглядваюся на пражытае, пачынаючы разумець, што з кожным годам раблюся я ўсё болей хітрым, больш прадбачлівым, і таму міжвольна згадваю пра тое, як залазіў у сад — сцежкай з таго ж маліхніка. Гэта пранырлівасць малагодка бавіць мяне ў хвіліну невыноснай раздражненасці. Быццам пазнака блізкага дабра, спадзяванага.

І зноўку абяцаю сабе жыць годнасна, ведаючы, што няма такіх учынкаў, якія ўдалося б паправіць. Гэта дае мне магчымасць адчуваць тую няўпэўненасць, дзякуючы якой не страчваю, як здаецца, чалавечнасці. Усё роўна, як пасля справядлівай лаянкі на мяне маці за пакражы мае дуралобныя.

Ідучы праз гады свае ардэнаносныя з грудзямі дапераду, іншы раз уцягваю галаву ў плечы ад раптоўнага ўспаміну пра Чабаніху або матчыныя наракані... Якраз гэта і дапамагае не губляць дадзеную мне меру незаменную.

Бягу ў малінік, і ў яго цішы я гіну...

**С. Яновіч**

## ЗАСНІ СЯРОД АШАЛЕЛАЙ РАДАСЦІ

Памятаю радасць Сакрата Яновіча, якая па сённяшні дзень з'яўляецца, у значнай ступені, у зменлівых формах, рухавіком яго творчых пачынанняў, калі даведаўся ён, што прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў, з Беластока адзін з нямногіх і першы з пішучых па-беларуску. Ён працаваў тады яшчэ журналістам, і невялічкай кампаніі ніваўскіх газетчыкаў зафундаваў, у той жа эўфорыі, па саліднай чарцы. Спяваючы, дыскутавалі... Сёй-той прабаваў ашпарыць яго холадам рацыяналізму: моў гэтае членства — абавязвае дый наогул, што з яго? Але шчаслівы ён, як дзіця на руках маці, быў сярод іх, з першай надрукаванай кніжкай апавяданняў, няхай пакуль што сам у сваіх вачах, але ўжо набілітаваны.

І, відаць, яго творчай свядомасці быў патрэбны якраз такі пратэз. Бо з гэтага часу Яновіч, дагэтуль няўпэўнены ў сваіх магчымасцях, пашукоўваючы спагады і дапамогі ў сяброў (ён даваў не раз і мне свае празаічныя мініяцюры ў рукапісе для „адшліфоўкі"), ставячы творчасць не заўсёды на першым месцы, цяпер — як ніхто з „белавежцаў" — усю сваю волю і энергію сканцэнтраваў на літаратурнай дзейнасці. Заўважальна ўзрасла колькасць публікацый у друку. Паявіліся неўзабаве першыя пераклады яго твораў на польскую мову. А калі выйшла кніжка „Wielkie miasto Białystok", аб Яновічу паявіліся рэцэнзіі ў часопісах варшаўскіх, кракаўскіх, вроцлаўскіх. Гэта была рэклама не толькі яго: знаёмячыся з ім, польскі чытач даведаўся заадно аб беларускім кантэксце і нашым літаратурным руху.

Вядома было таксама, што аўтар „Загонаў", заахвочаны першымі хвалямі папулярнасці, задумаў большыя празаічныя творы. І пісаў. Пісаў, падпарадкоўваючыся поўнасцю сваёй Музе. Эгаістычнай. Бо разам з такой актыўнасцю паявіліся зняважлівасць, самаўпэўненасць, сімптомы зазнайства — рысы супрацьлеглыя пісьменніцкай прамалінейнасці, сумненням і разладу з самім сабой. Рваліся папярэднія кантакты: спакушала іншая, блізка-далёкая перспектыва — і з іншымі трэба было пасябраваць. Разважалі ў катэгорыях прынамсі еўрапейска-сусветных і вечна-нетутэйшых.

Але за такімі адносінамі да людзей і свету, за гэтымі непрывабнымі позамі і маскамі (якія становяцца другім характарам чалавека, калі іх доўга не скідаць), схаваўся, як здаецца мне, чалавек не такой псіхічнай канстытуцыі: Яновіч паэтычна ўражлівы, аж да сентыментальнасці, Яновіч, які баіцца расслабіцца хоць на хвіліну, Яновіч, які, мабыць, ведае цану сваёй творчасці і які натужліва цягне свой пісьменніцкі вазок. Яновіч, які аж да стомы ненавідзіць цванікаў, набабнікаў, кар'ерыстаў, бязмозглыхураднікаў, прыстасаванцаў — усе гэтыя чалавечыя шкарлупіны, што ствараюць нейкую прадметна-звярыную рэчаіснасць.

У дзвюх сваіх аповесцях, „Самасей" і „Сцяна", якія чытаў я ў машынапісных экземплярах, Яновіч — хацеў ён гэтага ці не — але паказвае якраз такую дэградаваную рэчаіснасць. Карыкатурна-гратэскную, населеную паскуднікамі і начэплівыцамі, людзьмі з раздвоенай і пакрэмзанай псіхікай, тыпамі грамадска няспелымі і хвараблівымі служакамі. Постацямі не надуманымі, а тутэйшымі, якія лёгка распазнаць сярод прахожых на вуліцы і ў затонах чыноўніцкіх кабінетаў. Змагаюцца яны з дробязнасцю і выпадковасцю шматлікіх праблем, што не вырастаюць непасрэдна з рэчаіснасці, бясплодна топчуцца на месцы і, загледжаныя ў свой пуп, раскашуюцца псеўдаразважаннямі аб жыцці. Іх нібы-драмы толькі рассмяшаюць удумлівага чытача; бо для чалавечай трагедыі патрабуецца высакароднасць мэтаў, чысціня ідэалаў і высокая свядомасць герояў.

Чыноўнікаў жа, людзей маленькіх, лішніх, няўдачнікаў — свет мізэрны і шэры. Хто толькі аб ім не пісаў, спачувальна заступаючыся або іранічна — ад Гогаля да Чэхава. Яновіч упісвае ў гэтую галерэю тыпаў сваіх „самасеяў". Аўтар аповесцяў паказвае, як і чаму, адарваныя ад роднага, не могучы ўжыцца ў новае, яны становяцца гвалтаўнікамі і падонкамі. У рысах характару і паводзінах ягоных персанажаў ёсць нешта ад страшнага салагубаўскага Перадонава, носьбіта ўсіх псіхічных гідасцей, якія могуць таіцца ў чалавеку.

Праз гэтую дэградаваную, гнілую рэчаіснасць прасвечваецца ў творах Яновіча рэчаіснасць іншая. Вясковая. Выступае яна не толькі ў аповесцях, але часта таксама ў яго празаічных мініяцюрах. Гэтая „іншая" рэчаіснасць — мала рэальная, таму што збудавана яна з часу прошлага і, хоць упісана ў геаграфічныя каардынаты, не пазбаўлена атрыбутаў зямлі запаветнай, упрыгожанай пажаданнямі людзей, спатлядаючых на яе. Таму яна такая далёкая. Дэкаратыўная.

Дзве гэтыя рэчаіснасці, асабліва ў аповесцях, звязваюць галоўныя героі, персанажы сялянскага паходжання, пражываючыя аднак у горадзе (Андрэй Антошка — „Самасей" і Сцяпан Сумляневіч — „Сцяна"). У „іншай" рэчаіснасці засталіся ў іх родныя і знаёмыя. Туды і ездзяць Андрэй і Сцяпан. Яновіч умела і трапна малюе іх псіхалагічныя партрэты, адкрывае іх унутраныя краявіды, паказвае сцэны, аб якія яны б'юцца. З любоўю і пашанай да „малога" чалавека аўтар апавяданняў „Wielkie miasto Białystok" адлюстроўвае, істотныя для многіх прадстаўнікоў свайго пакалення, сацыяльныя і эканамічныя змены на Беласточчыне.

Галоўныя персанажы Яновіча гэта людзі нешчаслівыя — месцам свайго нараджэння і месцам таксама свайго пражывання. Парадаксальна нешчаслівыя, таму што нічога драматычнага ў іх жыцці не здарылася, і мучыць іх якраз гэтая „ніякасць" іх становішча. Заблытаныя ў вузле паверхнаснай штодзённасці, з паралізаванай воляй, яны набожна кланяюцца багіні-вёсцы, якой фактычна ўжо не ведаюць. Нейкі комплекс віны перад ёю знішчае іх так, як і беспадстаўная варожасць да горада. Папаўшы ў рэчаіснасць дэградаваную, усе гэтыя сцяпаны і андрэі хутка пераходзяць з катэгорыі вясковых людзей „нармальных" у катэгорыю „ніжэйшую".

Заслугай Яновіча з'яўляецца іменна тое, што здолеў ён напоўніць старую тэму знішчэння чалавека гарадской цывілізацыяй новым і важкім матэрыялам. І ў нашых умовах горад стварае не толькі большыя магчымасці развіцця. Ён паказаў, як чалавечая псіхіка не вытрымоўвае тэхнічных тэмпаў, шматмэтнасці сацыяльнага развіцця, маральнай і эстэтычнай зменлівасці, правілаў бюракратычнай гульні. „За аднаго сябе будзе заступацца, бязлітасна", — выгарашае Андрэй Антошка („Самасей", с. 125). А Сцяпан Сумляневіч, чалавек невысокага лёту, яшчэ больш песімістычна бачыць сваю будучыню: „Яны, — панізіў голас, — так прыціснуць цябе, што ўсе мы з табою насамі ў зямлю зарыем" („Сцяна", с. 206).

Героі Яновіча гэта людзі па сутнасці бяздомныя. Гарадскія кватэры падкрэсліваюць толькі ідыятызм іх існавання. Тут іх як бы не абмывае струмень вялікага жыцця. Таму, каб адпачыць і аднавіць сябе псіхічна і фізічна, хоць на хвіліну, бягуць яны ў прыроду, якая не хітруе і мова якой гучыць для іх яшчэ пераканаўча. Загледжаныя ў яе спакой і хараство, прастату і справядлівасць, хочуць „заснуць сярод ашалелай радасці" („Самасей", с. 84).

Ад першай літаратурнай публікацыі Сакрата Яновіча мінула ўжо шмат дзён. Лёс, выпаўшы на яго долю, не паблажаў: пісьменніцкае вырастанне, як і ў іншых „белавежцаў", адбывалася з тармажэннем, паволі. Аднак непрыкметна для многіх Яновіч перарос іх, пасталеў. І хоць яго сапраўдная літаратурная дзейнасць толькі пачынаецца, то кнігі, якія ён ужо напісаў, сведчаць, што паявіўся ў нас аўтар шмат абяцаючы.

**Ян Чыквін**

## УЛЮБЛЁНЫ Ў НАШУ ПРЫРОДУ

(Працяг са стар. 1)

шых фатаграфічных матэрыялаў (паперы, хімікатаў і г.д.), але напэўна і тое, што ўсе гэтыя дасканаласці тэхнікі і хіміі ў руках іншых фатографаў даюць усяго толькі нямы, халодны адбітак рэчаіснасці, а ў валоданні У. Пухальскага нараджаюць карціны, у кожнай дробязі пранікнутыя трапяткім жыццём. А для гэтага патрэбна не адно дасканаласць варштату, але таксама глыбокія прыродазнаўчыя веды і талент мастака, а гэтаму аснова — карпатлівая праца. „Кожны аб'ект я абстрэльваю фотааб'ектывам некалькі дзесяткаў разоў з самых разнастайных пунктаў і пазіцый, каб потым сярод дзесяткаў добрых і вельмі добрых здымкаў выбраць адзін-адзіны, самы выдатны", — прызнаецца ён. І пры гэтым нельга абысціся без ачаравання прыродай, пра якое мастак-фатограф заўважае: „Сапраўдны цуд — гэта цуд прыроды, калі, напрыклад, з малюсенькага зярнятка вырастае гонкая маштавая сасна. І, бадай, таму ў мяне паўстаюць дзве працы: адна на паперы ці на кінастужцы, а другая ў маёй душы, унутры мяне самога".

Працы У. Пухальскага маюць непрамінаючую вартасць. Яго здымкі і фільмы адлюстроўваюць акружаючы нас свет і адкрываюць таямніцы жыцця, у якія вельмі цяжка пранікнуць. Асабліва ж у наш час, калі ўсё цясней і цяжэй жывецца жывёлам, калі адзін за другім, іх віды гінуць назаўсёды, пакідаючы ў прыродзе пустое месца і астаючыся толькі на здымку Пухальскага.

— Што я раблю ў вольны час? А скажыце, калі ласка, — перапытвае ён мяне, — што гэта такое „вольны час"? Я не ведаю такога паняцця. Мне ж ужо семдзесят год, а я яшчэ хачу столькі зрабіць!.. Каб вы ведалі, якія некранутыя абшары прасціраюцца яшчэ і колькі там жыве розных цудоўнасцей. Нядаўна абладаваны поўнымі фільмовымі касетамі я вярнуўся з далёкага Шпіцбергена, а на гэтую восень збіраюся плыць у непасрэднае суседства з паўднёвым полюсам на Антарктыду. Дзе ўжо мне там да вольнага часу!..

І самы ўлюбёны ў нашу прыроду чалавек і найлепшы яе папулярызатар, лаўрэат дзесяткаў польскіх і замежных узнагарод за сваю дзейнасць замахаў на мяне рукамі, быццам баронячыся, што яму займу сваёй размовай якуюсьці маламальскую дробязь яго бясцэннага часу.


Таўстадзюб каля сваіх птушанятаў.

**Мікалай Гайдук**
**Фота з архіву У. Пухальскага**

## МАЛА БЕЛАСТОЦКАГА

Сярод многіх мерапрыемстваў сёлетняй Дэкады культуры вёскі я выбраў арганізаваны 7 сакавіка Ваяводскім домам культуры ў Беластоку ў кінатэатры „Звёнзковец" урачысты канцэрт пад назвай **„Фальклор Беласточчыны"**. Спяшаўся я на яго па дзвюх прычынах. Па-першае, спадзяваўся сустрэцца на ім з праўдзівай песеннай і музычнай народнай творчасцю нашага рэгіёна. Па-другое, лічыў, што гэта будзе канцэрт адборных мелодый, бо на ім выступяць выключна тыя калектывы, што занялі вядучыя месцы на ваяводскім аглядзе фальклорных калектываў, які ў пачатку сакавіка адбыўся ў Моньках. Словам, на гэтым канцэрце мелі дэманстраваць свой рэпертуар і выканаўчае майстэрства найлепшыя.

Праўда, канцэрт быў багаты. Выступіла на ім 9 калектываў і адзін саліст, а ў іх рэпертуары было ад 2 да 7 твораў. Колькасць значная, дазваляючая на заўвагі і вывады, якія датычаць цяперашняга стану адкрыцця і паказу фальклору Беласточчыны. Не буду таіць, гэты стан нікога не можа натхняць аптымізмам.

Перш за ўсё на канцэрце заўважаўся недахоп народных спевакоў і спявачак, якія б выступалі ў адзіночку з сольнымі праграмамі. Выступіўшы на канцэрце гарманіст С. Станкевіч з Саламянкі сваім педаловым гармонікам ды сыгранымі дзвюма мелодыямі, у тым ліку „Абэркам з Вілянова" (г.зн. з-пад Варшавы), не здолеў запоўніць гэтай пусткі. Тое самае можна сказаць пра спявачыя дуэты, трыо, квартэты і г.д., бо чамусьці выступалі толькі хоры ў 7-10 асоб, музычна-харавыя і музычныя калектывы.

Сярод іх выдзяляўся рэпертуарам і высокай музычнай культурай 10-асабовы вядомы калектыў з Гарадка. Гэта была сапраўдная тутэйшая песенная творчасць, бо ў іншых выступаючых з праўдзівымі народнымі песнямі і мелодыямі Беласточчыны выходзіла, далікатна кажучы, па-рознаму. Такія калектывы, як „Падляшскія зязюлькі" з Бельскага комплекса сельскагаспадарчых школ, „Перапёлка" з бельскага ПГРу, падворкавы аркестр з Васількова, маладзёжны аркестр з Бельскага дома культуры, а нават народны аркестр з Турны Вялікай праспявалі і сыгралі мелодыі, сярод якіх амаль не было следу народнай песні і музыкі з беластоцкага рэгіёна. У іх праграмах былі творы з Кялецкага, Варшаўскага, Цеханоўскага, Сядлецкага і іншых ваяводстваў, і толькі дзе-нідзе паяўляліся слабенькія праблескі меласу Беласточчыны і то часцей за ўсё нейкія штучныя „нацяжкі" ды „нагінанні" да беластоцкасці. Але ўжо ў праграме, заснаванай на абрадзе каледавання, з якой выступіў калектыў „Клекацякі" з Боцькаў, былі вельмі цікавыя, арыгінальныя мясцовыя калядныя песні і навагоднія віншаванні. Яшчэ бліжэй да мясцовай народнай песні аказаліся жаночыя калектывы „Куляшанкі" з Кулешаў і „Калінкі" з Каліноўкі Каралеўскай. Яны спявалі ў асноўным народныя балады, у якім адчуваюцца матывы тутэйшага колішняга шляхецка-баярскага фальклору.

З усяго сказанага напрошваецца вывад, што праўдзівая народная творчасць Беласточчыны ўсё яшчэ не адкрыта Ваяводскім домам культуры і іншымі культурна-асветнымі ўстановамі Беласточчыны, яны ўсё яшчэ не здолелі падняць на сцэну яе непаўторную красу. Арганізацыя канцэрта была горш, чым дрэнная, адбылася ў поўнай таямніцы ад жыхароў Беластока і ў вельмі няўдала выбраны дзень — напярэдадні Міжнароднага дня жанчын, калі ўжо людзі былі заняты падрыхтоўкай да гэтага папулярнага свята. У той час, калі на сцэне выступіла каля 80 спевакоў і музыкаў, то ў зале было не болей 40 гледачоў!.. Таму няма чаго дзівавацца, што ў выступленнях самадзейных артыстаў не адчувалася прыўзнятага настрою і не відаць было цёплай усмешкі, бо, вядома, якая ж гэта прыемнасць спяваць ды іграць для пустых крэсел...

**Мікалай Гайдук**




У Бельскай гміне ў 12 васьмігадовых і 6 філіяльных пунктах (класы I-IV) вучыцца 1 754 дзяцей. У зборнай гміннай школе ў Бельску займаецца 489 дзяўчат і хлопцаў. Сюды штодзень школьным аўтобусам даязджае 43 вучняў са старэйшых класаў (V-VIII) з Галадоў і Катлоў. У школу ў Аўгустове даязджае 16 вучняў з вёскі Стрыкі; у школу ў Храбалах — 67 вучняў з Кнаразоў, Дзяніскаў і Плюцічаў; у школу ў Лубіне Касцельным — 60 з Трускаў і Грабаўца; у школу ў Пасынках — з Піліпкаў, Мякішаў і Трашчоткаў (ва ўсе гэтыя школы дзяцей возяць трактарысты бельскага СКР у адпаведна дастасаваных прычэпах).

Аўтобусамі ПКС даязджаюць вучні з Дабраміля ў Кнарыды, з Вулькі ў Парцава і з Гацькоў у Храбалы. Разам 50 асоб.

У час, калі пасля вялікіх ападкаў снегу былі непраездныя дарогі, бацькі вазілі дзяцей санкамі. Гэтак было на адрэзках з Кожына ў Пасынкі і з Трускаў у Лубін Касцельны.

У гміне замала бульдозераў і аўтамашын з плугамі, якія можна было б накіраваць на адснежванне дарог. З-за гэтага 25 лютага пасля снежнай завірухі не даехалі ў школу дзеці з Катлоў. Спазніліся таксама аўтобусы ПКС.

Найцяжэй даязджаць аўтобусамі ПКС з Плюцічаў у Храбалы. Яны або спазняюцца, або зусім іх няма. Не лепш даязджаць вучням з Грабаўца ў Лубін Касцельны ды назад. Там яны часта не бяруць вучняў, бо едуць ужо перапоўненыя. Выхад быў бы тады, каб яны часцей курсавалі. Але Ваяводскае прадпрыемства ПКС не мае аўтобусаў, каб павялічыць шматразовасць. Да таго бывае і так, што ў торговыя дні самі бацькі першыя пхаюцца ў ранішні аўтобус, які якраз павінен забраць іх дзяцей у школу. Таму накіравалі туды прычэп з трактарам, бо іншага выхаду не было.

Іншая справа. Школьны аўтобус. Гмінная зборная школа атрымала яго пасля рамонту. Ён часта псуецца. Рамантаваць яго прыходзіцца нялёгка. Цяжка дастаць запасную частку.

На працягу школьнага года даважэнне вучняў каштуе 1,5 млн злотых, не лічачы коштаў эксплуатацыі школьнага аўтобуса. Як бачым, кошт вялікі. Але ўжо, каб хаця было выгадна даязджаць. А так аўтобусамі найлепш, бо ў іх цёпла, а прычэпы ж не абаграваюцца. У мароз прыходзіцца ў іх цярпець у холадзе. Дый па дрэнных дарогах, найчасцей калдобістых, палявых, а на такія дарогі найчасцей накіроўваюцца яны, бо там аўтобус ніяк не паедзе, ехаць у прычэпе вельмі нязручна. Якая ў іх амартызацыя? На ўхабінах лопаюць шыбы. А тады „латаюць" вокны стружкавымі плітамі, дык і цёмна.

Адно пацяшальнае пры ўсім гэтым. Школа лічыць на больш аптымістычны прагноз. Вучням запэўняецца цёплае малако або кава з малаком, бутэрброды. А ў зборнай гміннай школе ўсе даязджаючыя маюць абеды.

Дзяржава на кожнае дзіця ад 7 гадоў усклала законны абавязак хадзіць у школу. Блізка да школы ці далёка. Але ўсё яшчэ не вырашана канчаткова справа даважэння школьнікаў. Яна не ўрэгулiравана ніякім законам. Хаця асветныя ўлады маюць гэта на ўвазе. Праходзіць год за годам — і ўсё як было, так і ёсць. Кожны год тыя самыя цяжкасці і камплікацыі. А вядома ж, што за спазненне паяздоў ці аўтобусаў ПКС ані чыгуначныя ўлады, ані ПКСу не прыводзяцца да пакарання. Цывільны кодэкс у гэтай галіне не прымяняецца. Словам, дае вольную руку. А што моладзь спазняецца...

Агульнавядома толькі, што нават у найлепшай школе найлепшаму вучню амаль што немагчыма дабіцца высокіх поспехаў у вучобе, калі ён спазняецца на ўрокі (з прычын ад яго незалежных), прыходзіць на ўрокі стомлены шматкіламетровым падарожжам або вымушаны хадзіць пехатою па чатыры, а неаднойчы і значна больш кіламетраў. Хадзіць, дык хадзіць. Але бывае, што трэба ісці ў вялікі дождж ці ў лютаўскі мароз. Гэта ўсё ў значнай ступені з'яўляецца цяжкай, амаль непераможнай перашкодай таму, каб дабівацца высокіх поспехаў у навуцы, а гэта ж мэта здольных і амбітных вучняў.

**Я. Целушэцкі**




## Нашаніўская пара

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XXII

**Грамадская лірыка.** Вершы з выразна акрэсленым грамадскім характарам складаюць найбольшую групу ў дарэвалюцыйнай лірыцы Бядулі. Іх можна падзяліць на асабістыя, сялянскія і ваенныя. У асабістых паказвае ён грамадскія падзеі праз прызму ўласных і сямейных спраў. У сялянскіх звяртаецца да тых праблем, якія датычылі тагачаснай беларускай вёскі, у ваенных паказвае вынікі першай сусветнай вайны.

Да групы твораў асабістых можам залічыць: „Гараць сняжынкі кволыя...", „Тры маладыя бярозкі", „Вечар", „Радасць", „Вячэрнія гаснуць зарніцы...", „Пастушка".

Бадай, усе названыя вершы былі напісаны або на падставе ўражанняў з дамашняга жыцця паэта, або паўсталі ў тым часе, калі Бядуля працаваў на сплавах.

Верш „Гараць сняжынкі кволыя..." гэта свайго роду дэкларацыя паэта, які незадаволены існуючым станам рэчаў і горда заяўляе, што „парве ланцуг, скоўваючы яго жыццё". Твор гэты даволі паверхнасны і па сутнасці не знаходзім у ім ніякіх даных аб жыцці паэта ці краіны.

Вершы „Вячэрнія гаснуць зарніцы", „Вечар", „Радасць" звязаны, бадай, з сямейным побытам паэта, з яго дзяцінствам. Усе яны напісаны ў Пасадцы, ва ўсіх выступае імя хлапчука Лёлік і інструмент — скрыпка.

Верш „Вечар" пазбаўлены якой-колечы дэкларатыўнасці. У ім многа бытавых дэталяў. Паэт рэалістычна малюе побыт уласнай сям'і. У вершы выступаюць пейзажныя элементы, аднак выконваюць яны тут выключна ролю фону. Аўтар выбірае толькі тое з пары дня, што з'яўляецца панурым і змрочным. Такі каларыт гарманізуе з клопатамі і нястачамі сямейнага жыцця. Нават тое, што па сваёй натуры з'яўляецца цікавае і прывабнае, у вершы прадстаўлена ў сямейным асвятленні. Прыкладам можа быць скрыпка, якую пісьменнік параўноўвае з вісельнікам. Паэт умела выкарыстоўвае народную лексіку. Асабліва характэрнымі з'яўляюцца парадаксальныя, добразычлівыя праклёны, якімі старэйшыя абкідалі на Беларусі дзяцей: „Каб вас д'ябал не качаў! Каб халера вас не брала".

У падобным стылі ўтрыманы і верш „Вячэрнія гаснуць зарніцы...". Аднак у ім менш, чым у папярэднім творы, дэталяў, бытавых фрагментаў, фактаў. І дзякуючы гэтаму верш з'яўляецца ў сэнсе мастацкім творам больш дасканалым. Агульны настрой верша, аднак, таксама пануры, непрывабны, як гэта мы бачылі ў папярэднім творы.

У вершы знаходзім характарыстыку тых умоў, у якіх жыў юнак Бядуля і ў якіх пісаў першыя свае творы. Характэрнай з'яўляецца апошняя страфа твора:

*Падлогу з'еў грыб аж дашчэнту,*
*І тупаць па ёй так няёмка.*
*Сягоння няма атрамэнту, —*
*Пісаць буду вершы алоўкам.*

Апошні з сямейных верш „Радасць" сваёй танацыяй і настроем адыходзіць ад папярэдніх. Уся падзея адбываецца ў той самай, што і раней хаце. Выступаюць тыя самыя героі: бацька, маці, дзеці і сярод іх Лёлік. Верш паказвае аднак сямейнае свята. Праяўляецца яно ў тым, што целіцца карова. Гэты, як жа істотны для гаспадаркі момант уводзіць у сям'ю зусім новы радасны настрой. Якраз гэты настрой і стаў інспірацыяй да напісання пахвальнага верша.

Твор „Радасць" не змяняе аднак агульнага настрою сямейных вершаў Бядулі. Належаць яны да форм сумных і элегійных.

(Працяг са стар. 1)

# У ГАСЦЯХ НАД ШПРЭВАЙ

„Дамавіна“ выдае таксама газеты і часопісы. Сярод іх — навуковы „Летапіс“ з падзелам на літаратурную, гістарычную і народную серыі. З газет — дзённік „Нова доба“ з месячным дадаткам для моладзі „Мы“, тыднёвік „Новы цаснік“, месячнік з галіны культуры „Разгляд“, часопіс для настаўнікаў „Сербская школа“ з дадаткам на нямецкай мове, дзве рэлігійныя газеты — „Католькі пасол“ і „Памагай бог“ і дзіцячы журнал у двух эдыцыях — на верхнелужыцкай і ніжнелужыцкай мовах „Пломіо“ і „Пломіе“.

Выдавецтва „Дамавіна“ супрацоўнічае з многімі краінамі. Штодзённыя кантакты ў выдавецкіх справах і ва ўзаемнай дапамозе ўтрымлівае яна з выдавецтвамі Варшавы, Катовіц і Прагі. Цесныя кантакты — з Масквой, Кіевам, Мінскам, Люблянай і іншымі.

* ✲ *

Аб усім гэтым мне давялося пачуць на прэс-канферэнцыі, якую арганізаваў дырэктар выдавецтва „Дамавіна“ з нагоды 25-годдзя дзіцячага журнала „Пломіо“. На гэту ўрачыстасць былі запрошаны журналісты з дзіцячых газет розных краін. Вельмі нам прыемна, што і „Зорка“, хоць толькі дадатак для дзяцей, была госцем на свяце „Пломіо“.

Цэнтральным момантам святкавання юбілею газеты была ўрачыстая сустрэча рэдакцыі з яе чытачамі.

У вялізнай, найбольшай зале горада, на 1000 чалавек, сабраліся прадстаўнікі розных школ разам са сваімі настаўнікамі. Запрасілі вялікіх гасцей з Берліна, Будзішына, мясцовых арганізатараў сербалужыцкага грамадскага і культурнага руху. Дзеці віншавалі сваю газету з яе святам і ў гонар яе спявалі, танцавалі, выступалі са спецыяльнымі, напісанымі на юбілей вершамі. На гэтай жа сустрэчы і мне, рэдактару „Зоркі“, выпаў гонар расказаць лужыцкім дзецям аб нашай газеце, аб беларусах у Польшчы, аб супрацоўніцтве „Зоркі“ і „Пломіо“ і перадаць ім прывітанне ад дзяцей Беласточчыны. Сардэчнай авацыяй адгукнулася зала на маё прывітанне. Дзеці ж ведаюць аб нас з „Пломіо“, не раз чыталі матэрыялы лужыцкіх журналістаў, якія пабывалі ў Беластоку.

На заканчэнне ўрачыстасці для чытачоў „Пломіо“ выступіў вядомы ў Польшчы, дый не толькі, хлапечы хор Стэфана Стулігроша, вядомы пад назвай „Познаньскіх салаўёў“. Хор падрыхтаваў гадзінны канцэрт лужыцкіх мелодый.

З песнямі лужыцкіх і польскіх кампазітараў выступіў гэты хор яшчэ раз, вечарам, для дарослых гледачоў з Будзішына. Поспех малышоў быў незвычайны. Карыстаючыся нагодай, канцэрт наігрывала Котбускае радыё. Як толькі запісы былі закончаны, гледачы зрабілі хору незмаўкаючую авацыю. Хлапчукі шмат спявалі на біс, а на заканчэнне, калі хор зацягнуў вельмі папулярную сярод лужычан іх народную песню „Слава, слава...“, уся тысячная зала ўстала з месц і шматталоса, на поўныя грудзі, тысячным хорам спявала разам з хлапчукамі Стулігроша. Узнёслая песня ляцела далёка за муры залы, адбівалася рэхам у вячэрнім горадзе.

Доўга будуць памятаць гледачы і артысты гэты канцэрт.

А мне было прыемна гэта слухаць, ведаючы, што абавязкова раскажу і вам аб усім бачаным.

**Яніна Чэрнякевіч**

*Галоўны рэдактар „Пломіо“ К. Краўц дзякуе познаньскаму хору за цудоўны канцэрт.*

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

## ВЯСЕЛЬНАЯ







*Выкотілі, выкотілі на гуліцю бочку,*
*выдурылі, выдурылі ў Ондрэя дочку,*
*выдурылі, выдурылі ў Ондрэя дочку.*
*Нэ мы еі выкотілі — сама котілася,*
*нэ мы еі выдурылі — сама просылася,*
*нэ мы еі выдурылі — сама просылася.*

Ад Алены Рыбачук, 1904 года нараджэння, і Сцепаніды Вашчук, 1913 года нараджэння, вёска Быстры гм. Боцькі, запісаў 13 студзеня 1978 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя Людмілы Панько.

# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## ПАХВАЛА КАНДРАТКАМ

Сельскагаспадарчы прадукцыйны калектыў (РСП) у Кандратках (гміна Міхалова) гаспадарыць у асноўным на зямлі V і VI класаў ды іншай няўдобіцы. Аднак выкарыстоўвае яе вельмі добра. Дае неабходную колькасць угнаенняў, засявае розныя травы, якія даюць добры плён нават на пясках. Цяпер РСП мае ў сваім уладанні звыш тысячы гектараў у асноўным з дзяржаўнага фонду зямлі. Дзякуючы добрай апрацоўцы зямлі, яна не скупіць з аддачай. У мінулым годзе кааператыў сабраў у сярэднім ураджай збожжавых культур на сем цэнтнераў больш, чым у папярэднія гады. Ён дабіўся 26 цэнтнераў збожжа з кожнага гектара зямельных угоддзяў.

Апрача таго, у мінулым годзе кандраткаўскі вытворчы кааператыў паспяхова справіўся не толькі са сваімі палявымі работамі, але і выканаў усе заказы на паслугі ў час жніва і бульбакапання для мясцовых аднаасобных сялян. За гэта яму належыцца пахвала. Пра гэта прасіў нас напісаць начальнік Міхалоўскай гміны.

Сёлета РСП пабудуе аўчарню для 500 авечак і пачне гадаваць карпаў у ставах. Жывёлагадоўля ў гэтым годзе павялічыцца ў два разы — параўнанні з мінулым годам.

Кааператыў мае таксама дасягненні ў будаўніцтве жылых дамоў. Пабудаваў ужо два будынкі. У адным з іх знаходзяцца памяшканні адміністрацыйнага характару.

## НОВАЯ КРАМА

26 лютага гэтага года ў Кляшчэлях гасцінна адкрыліся дзверы новай крамы. У ёй тры прадаўшчыцы прадаюць усялякую вопратку, абутак і тэкстыльныя вырабы. Кіраўніком гэтага гандлёвага павільёна праўленне ГС назначыла Марыю Амельяновіч, якая раней працавала ў мясцовай краме з абуткам.

Новая крама (займае яна плошчу ў 360 квадратных метраў) мае ўласную кацельную. Таму тут цёпла і добрыя ўмовы да працы.

У новы павільён перанеслі тавары з меншых крамаў, напрыклад, абутковай, а свабоднае памяшканне пасля рамонту будзе перададзена спажывецкай краме, якая такім чынам значна павялічыць сваю плошчу і прыме больш спажывецкіх тавараў. У іншых звольненых памяшканнях будзе весці сваю дзейнасць цэнтр „Сучасная гаспадыня“.

**Я. Целушэцкі**




*У Беластоцкай рыбнай цэнтралі патапілася ўся рыба, бо ў краме ў вёсцы Белкі няма яе ў ніякім відзе — ані філе, ані капчонай. І гэтак цягнецца ўжо ад каляд.*

**М. Лук'янюк**

# МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

## ХВЕДАР ВЯРЭМЧУК

— Нарадзіўся я ў 1906 годзе ў Кляшчэлях. Тут выхаваўся, тут распачаўся мой працоўны шлях. Тут і жыву. Калі стаў я паўналетнім, пайшоў служыць парабкам, бо сваёй гаспадаркі ў нас не было. У 1932 годзе ўладкаваўся на працу ў Гайнаўцы пры мясніках. Купцамі-свінабоямі іх тады называлі. Меў я каня і фурманку. Ездзіў са свінабоямі па вёсках, вазіў купленых у сялян кормнікаў і ў масарнях выконваў усялякія работы. На працягу двух год маёй там працы, прыйшлося бачыць, як свінабоі, прафесіяналы мясных вырабаў, вырабляюць розны асартымент. І тут, працуючы ў іх разнарабочым, пачаў прабаваць падрыхтоўваць мясныя вырабы сабе. Пачаткова добра не выходзіла, а пасля атрымоўвалася ўсё лепш і лепш.

А пасля вызвалення працаваў я ў кляшчэлеўскай масарні на працягу 8-мі год. Быў час належна пазнаёміцца і паглыбіць свае веды ў гэтай дзялянцы. І так, не канчаючы аніякіх школ, аніякіх курсаў па мясной прамысловасці, стаў я ва ўяўленні людзей добрым мяснікам; пачалі мяне прасіць, каб падрыхтоўваў ім мясныя вырабы на сямейныя ўрачыстасці, а пераважна на вяселлі. Як правіла, арганізатары вяселляў дбаюць пра тое, каб была смачная закуска, каб госці сказалі: было што выпіць і смачна закусіць. І, як сцвярджаюць вясельнікі, мае вырабы маюць высокія смакавыя якасці. Хочаце, каб расказаў вам, як я падрыхтоўваю мясныя вырабы? Калі ласка, паслухайце!

Адразу хачу падкрэсліць той факт, што кормніка трэба ўмець забіць так, каб не было віску і каб кроў не разышлася па мясе. Найлепш кроў сыходзіць, калі кормніка б'юць у шыю. Ды асмаліць трэба добра.

Калі разбіраю я кормніка, адразу сартую мяса, бо з аднаго мяса раблю кілбасы, з другога балерон, з іншага сальцісон і г.д.

**Шынка.** Шынку трэба належна аддзяліць. І калі яна астыне, тады я падрыхтоўваю спецыяльную сумесь. Раскрышваю мускатны арэх (мушкаталовую галку) і расціраю яго з соллю. І гэтай сумессю моцна націраю шынку. Праз тры дні вяжу шынку і вэнджу. Гэтым часам прашу, каб гаспадыня закіпяціла вады. Калі я бачу, што шынка ўжо дастаткова падвэндзілася, тады ўкладаю яе ў гэты кіпень на дзве гадзіны. Таксама, як шынку, падрыхтоўваю я і балерон, і паляндвіцу.

**Кілбаса.** Значна паляпшаюцца смакавыя якасці кілбасы, калі да свінога мяса дадаць цяляціны (калі яе няма, можа быць ялавічына). Худое і тлустае мяса рэжу я нажом на дробныя кусочкі. Пасля дадаю цукру, салетры і солі. Размешваю ўсё гэта і яшчэ дадаю мускатны арэх, перац і часнок. Яшчэ раз добра ўсё размешваю. Тады заінсталюю сваю 22-лінейную мясарубку і напіхаю мяса ў падрыхтаваныя кішкі (зразумела, што неабходна з мясарубкі выняць ножык). Наступная дзейнасць — вэнджанне. Калі дастаткова кілбасы падвэндзіліся, укладаю іх на 10 мінут у кіпень.

**Паштэтовая кілбаса.** Адварваю лёгкія, сэрца і ныркі кормніка. Пячонку не адварваю. Яе сырую трэба рэзаць на кусочкі і ў гарачай вадзе адпарыць на працягу 30 мінут. Затым усё гэта перакручваю праз машынку, залажыўшы ў яе густое сіта. Да гэтай папкі з мяса дадаю перцу, цыбулі і два сырыя яечкі (калі кормнік не важыць больш як 100 кг, а калі больш, дык і яек адпаведна больш). Пасля ўсё разам размешваю і напіхаю кішкі, а пасля ўкладваю іх на 15 мінут у кіпень.

**Сальцісон.** На сальцісон ідзе мяса з галавы кормніка. Калі яно зварыцца і аддзеліцца ад касцей, рэжу нажом на кусочкі. Дадаю часнаку і перцу, размешваю, накладваю яго ў страўнік кормніка і, зашыўшы, накладаю на яго дошку, а на яе нейкі камень. Як добра астыне, тады сальцісон можна есці.

**Халадзец (квашаніну)** робяць з ног. Але гэта на вёсках дасканала робяць жанчыны. У гэтым асартыменце маёй паслугі не патрабуюць.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**



## ZDZISŁAWA SOŚNICKA



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвала**
Эва Антыховіч з Бельска.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Нядаўна мне прысніўся вельмі сумны сон. Быццам праз некага я даведалася, што памёр мой цесць. Даведалася я і пачала плакаць. Плачу, аж заліваюся слязьмі (ад гэтага становіцца мне лягчэй). І вось нейкім цудам я апынулася на вёсцы, дзе жыве мой цесць. Нікога са мной няма, ні мужа, ні дзяцей... У вёсцы ціха і спакойна. Высветлілася, што цесця ўжо паспелі пахаваць. А цёшча ўжо нават паспела яму паставіць помнік. Гляджу на гэты помнік, а ён стаіць пасярэдзіне вёскі і прыпамінае мне студню з драўляным дашком, але я ведаю, што гэта ж помнік. Тады я іду да цёшчы і ўсё плачу (плачу на працягу ўсяго сну). Пытаюся ў цёшчы, як гэта здарылася, што цесць памёр. Толькі што, здаецца, я яго бачыла. Быў здаровы, хадзіў і гаварыў са мною, а вось ужо яго няма. А цёшча мне і кажа: „Гуз у яго вырас, вялікі гуз на робрах. Ад гэтага гуза ён і памёр“. Плачучы, прачынаюся.

Анна з Б.

**Анна!** Сон твой, хоць на першы погляд і трагічны, зусім нядрэнны. Пахаванне азначала б весялосць, але на пахаванні ты ж не была. Але ўсё-такі спаткае цябе нейкая радасць. І перш за ўсё аб гэтым сведчаць твае слёзы. Ты ж увесь час ува сне плакала, і гэтыя слёзы аблягчалі табе жыццё. Бачыць у сне помнік — абазначала б, што атрымаеш нейкі вялікі спадак. Твой жа помнік быў скромны і драўляны, ды напамінаў калодзеж, дык думаю, што чакаюць цябе вялікія поспехі ў гаспадарцы і ўсё ж такі нейкі прыбытак, хаця можа і не такі вялікі.

**Астрон**

Дарагое Сэрцайка, ужо даўно збіраўся я напісаць да цябе, але ўсё яшчэ думаў, што мо сам спраўлюся са сваімі клопатамі. Мінула ўжо чатыры гады, як я пазнаёміўся з Аняй. Жыве яна ў вёсцы, непадалёку ад Гайнаўкі. Жыў я тады ў Гайнаўцы разам з бацькамі, вучыўся ў школе. Часта спатыкаўся з Аняй. Разам ездзілі мы на забавы, бывалі ў кавярнях, кіно, і было нам разам добра. Але вось год таму назад закончыў я школу і пайшоў працаваць аж у Гданьск. Моцна перажываў расстанне з Аняй. Пісаў часта пісьмы і часта ад яе атрымоўваў. Але час ішоў, і пазнаёміўся я з новымі сябрамі, ну і пазнаёміўся тут з Эляй, ды пакахаў яе. Да Ані надалей пісаў, але ўжо словы мае не плылі з глыбіні сэрца. На водпуск паехаў я ў Гайнаўку. І тут спаткаў у кавярні Аню з хлопцам. Уздрыгнула нейк маё сэрца. Падсеў да іх. Аня нейк дзіўна сябе паводзіла, пачала тлумачыцца. Але я хутка пайшоў. Было мне сумна, прыкра. Але калі падумаў пра Элю, адразу весялей рабілася на душы. А на другі дзень Аня сама наведала мяне. Прасіла прабачэння. Але ўжо была яна мне зусім абыякавая. Я




адчуў, што кахаю сапраўды толькі Элю. Хутка я вярнуўся ў Гданьск, цягнула мяне туды. Аня прысылала мне пісьмы, поўныя кахання. Не заўсёды даваў я ёй адказ. Ды і з тых, што пісаў, павінна была здагадацца, што ўжо парваліся нашыя сувязі. І, пэўна, здагадалася, бо нядаўна напісала, што не зможа жыць, калі я не вярнуся да яе. Наступныя пісьмы былі яшчэ горшыя. Пастанавіў паехаць у Гайнаўку, наведаць Аню, каб сказаць праўду ў вочы. Яна аднак не хацела мяне зразумець. Што ж рабіць?

Мірэк з Гданьска

Мірэк! Добра, што сказаў Ані праўду. Нельга ж ашукоўваць і яе і насілу змушаць сябе яе кахаць. Адышло ўжо гэтае каханне. Прыйшло новае. Так бывае ў жыцці. Не без уплыву тут, напэўна, вялікая адлегласць між вамі. Аня, на жаль, мусіць згадзіцца з гэтым. Напэўна нялёгка ёй. Але час гоіць раны, ды і да яе напэўна прыйдзе новае каханне, а тое першае астанецца толькі мілым успамінам.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў

## ТОРТЫ

### ТОРТ З ЧОРНАГА ХЛЕБА

На торт патрэбна: 6 яечак, 10 дэкаў міндалю, 18 дэкаў цукру, 1 лыжка цёртага на тарцы сухога чорнага хлеба, сок з палавіны лімона. На масу патрэбна: 25 дэкаў масла, 2 яечкі, 3 лыжкі цукру, лімонны сок з цэлага лімона і паўкілішка рому.

Разбіць яечкі, аддзяляючы жаўткі ад бялкоў. Жаўткі расцерці з цукрам. Міндаль абдаць кіпенем, зняць з яго скурку, а пасля падсмажыць і змалоць. Да расцертых жаўткоў з цукрам дадаць цёрты чорны хлеб, міндаль, пену з бялкоў, лёгка ўсё размяшаць, вылажыць у змазаную маслам бляшку, спячы, астудзіць. Падрыхтаваць масу: яечкі з цукрам збіваць на пары да таго часу, пакуль не страцяць арамату сырых яечак і маса не стане густой. Масла расцерці са сцёртай лімоннай скуркай. Па адной лыжцы яечнай масы дадаваць да масла і расціраць. Пад канец дадаць лімонны сок. Перарэзаць цеста на два кружкі і пералажыць яго масай. Верх і бок торту аблажыць масай, прыбраць палавінкамі міндалю.

### ШАКАЛАДНЫ ТОРТ

На 6 яечак трэба ўзяць 18 дэкаў цукру, 10 дэкаў змеленага шакаладу, 10 дэкаў арэхаў ці міндалю, 2 лыжкі цёртай булкі і масла для змазвання формы. На масу бярэм: 3 яечкі, 20 дэкаў цукру, 25 дэкаў масла, 10 дэкаў міндалю, 3 сталовыя лыжкі рому.

Жаўткі расцерці з цукрам. З бялкоў збіць пену, арэхі ці міндаль, вельмі дробна пасечаныя, і цёртую булку змяшаць з жаўткамі і пенай. Вылажыць у змазаную маслам форму і спячы.

Падрыхтаваць масу: яечкі збіць з цукрам на пары, пакуль маса не стане густою. Масла расцерці, спалучыць з яечнай масай, дадаць ром і сцёртыя ў мясарубцы або дробна пасечаныя арэхі ці міндаль, заправіць па смаку ромам. Астуджанае цеста перарэзаць упоперак два разы, змазаць масай, злажыць. Верх і бокі торту змазаць масай, упрыгожыць палавінкамі арэхаў і пасыпаць цёртым шакаладам.

**Гаспадыня**

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Меляшкі.* *Фота Я. Целушэцкага*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ф. купіў ад Р. пляц з домам. Умову яны спісалі самі. Ф. заплаціў задатак 10 000 зл., а апошнюю належнасць меў заплаціць пасля заключэння натарыяльнай умовы. Ф. зрабіў капітальны рамонт дома, што яму каштавала звыш 40 тысяч злотых. Натарыяльная ўмова не была заключана з віны Р., які запатрабаваў вышэйшай цаны, чым была пачаткова ўстаноўлена. Р. звярнуў задатак — 10 000 зл. а выдаткі на рамонт звярнуць не хоча, гаворачы, што яму гэтыя рамонты непатрэбныя, бо ён намеран разабраць дом і пабудаваць новы. Ці Ф. можа патрабаваць ад Р. звароту падвойнага задатку? Ці мае права затрымаць дом да часу, пакуль Р. не зверне кошты рамонту?

АДКАЗ: Умова, спісаная Ф. і Р., была па закону няважнай, таму Р. абавязаны звярнуць толькі задатак, які ён атрымаў, нават калі б гэта ўмова прадугледжвала абавязак заплаты падвойнага задатку. Адносна коштаў рамонту, то Р. абавязаны звярнуць іх Ф., нават калі б ён быў намераны разабраць дом.

Калі б Р. звярнуўся ў суд з патрабаваннем прымусовага высялення Ф. з дома, то Ф. павінен прад'явіць узаемны іск з патрабаваннем заплаты коштаў рамонту. Па прапанове Ф. суд можа паставіць у залежнасць прымусовае высяленне ад адначасовай заплаты Ф. яго належнасці.



## А. ВОІНАЎ

## КАМЕН-ДАНЦКАЯ ГАДЗІНА

### ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Аднойчы яна задала сабе пытанне: хто ж у порце мае найбольш свабодны доступ да караблёў, складаў і грузаў? І сама адказала: вядома ж, грузчыкі! Дык ці не трэба сярод іх пашукаць тых, хто ёй патрэбны?..

На наступную раніцу Лену паслалі на адзін з прычалаў дапамагаць у пагрузцы. Капітан баржы спяшаўся выйсці ў мора: на другі дзень два нямецкія ваенныя караблі павінны былі адплысці ў тым жа напрамку, і ён разлічваў на іх прыкрыццё, таму ўсіх, каго можна, мабілізавалі на пагрузку.

Грузчыкі кідалі мяшкі са збожжам на шырокую далонь амбарных вагаў, якія стаялі на прычале. І пасля таго, як малады хударлявы хлопец Міша Ільянкоў, дакладнымі рухамі кінуўшы на процівагу двухпудовыя дыскі гір, вызначаў, колькі кілаграмаў важаць мяшкі, грузчыкі ўскідвалі іх на спіны і, згорбіўшыся, ішлі па доўгіх сходнях уверх, да борта баржы. Мяшкі кідалі на палубу ля самага краю трума. Дзяжурны матрос вялікім вострым нажом разразаў верхняе шво кожнага мяшка, пасля чаго грузчык, прытрымліваючы мяшок за ніжнія вуглы, перакульваў яго ўніз. Успыхнуўшы ў сонечным промні, струмень збожжа знікаў у мгле ненажэрнага трума.

Вяртаючыся па новыя мяшкі, грузчыкі прабягалі міма Лены, якая стаяла побач з вагамі, і кідалі ёй пустыя мяшкі, а яна, акуратна расправіўшы, складала іх у кучу.

Пакуль грузчыкі, узважыўшы мяшкі, пераносілі іх з вагаў на баржу, у Мішы з Ленай з'явілася кароткая перадышка, і яны паспявалі перакінуцца некалькімі словамі. Ведалі яны адзін аднаго яшчэ раней, але да сённяшняга дня ніколі разам не працавалі.

Міша быў такі худы, што яго кашуля здавалася нацягнутай проста на рэбры. Але твар з марскім бліскучым загарам заўсёды быў вясёлы, цёмныя вочы глядзелі з затоенай усмешкай, быццам Міша ведаў штосьці смешнае, але іншым не гаварыў.

Калі настаў час абеду, Лена прысела на кучу мяшкоў, хутаючыся ў старэнькую ватную куртку. Быў змрочны, непраглядна-шэры дзень, сапсаваны сваркай з Надзяй.

Міша сеў непадалёк ад Лены. Дастаў з кішэні папяровы скрутак, змёў рукавом з пляцоўкі вагаў зерне, разламаў на дзве часткі кавалак хлеба і падсунуў сваё багацце бліжэй да Лены.

— На, запраўляйся!

— Не хачу, — адказала Лена. Ёй сапраўды не хацелася есці.

— Пашкадуеш, — усміхнуўся Міша і адкусіў кавалак хлеба з такім апетытам, што Лена міжволі ўсміхнулася.

— Апетыт у цябе, як у маладога ваўка. А ў чым душа трымаецца, незразумела!

— О, ты мяне яшчэ не ведаеш! Хочаш, двухпудовую гіру на баржу закіну?!

Лена засмяялася.

— Не трэба. Яшчэ паветраную трывогу ўзнімеш. Капітан падумае, што яго бамбяць!

Удалечыні, міма разбуранага маяка, паволі, як цені, прапаўзалі ў адкрытае мора два караблі. Адзін двухтрубны, ён глыбока асеў у ваду, з яго сталёвых вежаў тырчэлі кулямёты; а за ім — маленькі, з нізкай трубой з якой ішоў дымок.

— Кіт і кіцяня! — сказала Лена.

— А як ты думаеш, да якога класа гэты двухтрубны адносіцца? — спытаў Міша тонам экзаменатара.

Лена, зразумела, ведала, што гэта ўсяго толькі транспарт, хоць і ўзброены кулямётамі, але вырашыла свае веды не паказаць.

— Крэйсер!

— Ого! Ну і кіцяня! Што за баявая адзінка?

— Мінны катэр!

— Эх, ты! Тэрміналогіі марской і не нюхала! Крэйсеры табе ўсё мрояцца, а ваенны транспарт не пазнала! А кіцяня тваё — звычайны партовы буксір!

Лена пра сябе ўсміхнулася. Чаго ёй з ім спрачацца?

— Лена, — сказаў ён раптам, — пазыч мне дваццаць марак!

Просьба была такая раптоўная і сказана была з такой непасрэднасцю, што Лена, нават не паспеўшы падумаць аб катастрафічных выніках для ўласнага бюджэту, якія можа выклікаць яе шчодрасць, дастала з кішэні пашпарт, у якім ляжалі грошы, і адлічыла дваццаць марак.

Міша падзякаваў ёй, але чамусьці ўважліва пагледзеў на пацёртую вокладку пашпарта з тоўстага карычневага кардону з надпісам „Запісная кніжка“ і выціснутай пяціканцовай зоркай. Да вайны такія ж кніжкі прадаваліся ў ваенгандлі. Лена знайшла яе на падаконніку ў глухой суседкі, адарвала вокладку і зрабіла з яе вокладку для пашпарта.

Гэта вокладка, нягледзячы на беды ў жыцці яе ўладальніцы, навяла Мішу на некаторыя думкі. Ён раптам змоўк, і позірк яго цёмных вачэй стаў трывожным. Яго плечы, і без таго вострыя, раптам абвастрыліся яшчэ больш ад таго, што ён упёрся ў край дошкі і гэтак сядзеў, адчужана гледзячы перад сабой.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## СПЯВАЙЦЕ НАМ!

Паважаны рэдактар, я ўсё яшчэ пад вялікім уражаннем конкурсу „Беларуская песня — 78“. І пару слоў аб ім хачу зараз жа сказаць. І напэўна згодзяцца са мной многія прысутныя на сёлетнім аглядзе. Я лічу, што на пальцах адной рукі можна палічыць людзей, якія абыякава ўспрымаюць песні, што плылі са сцэны ў сёлетнім конкурсе. Гэтыя песні нашы перадаюць атмасферу, у якой мы раслі. Нам жа калісьці было цяжка жыць, часам, здавалася, толькі сядзь і плач. А ўсё ж мы спявалі, у песнях мы выяўлялі свае запаветныя мары. Праўда, што нашы песні народныя — часцей сумныя, чым вясёлыя. Але, на маю думку, гэта таму, што яны адлюстроўвалі рэальнае жыццё.

Я асабіста найбольш захапляюся калектывам „Дубочкі“ з Дубяжына. На мой погляд, тэта песняры на высокім узроўні. У іх акрамя прыгожых галасоў, быццам званы, яшчэ і душа вялікая, паэтычная. Яны пяюць чыстым чалавечым сэрцам. Іх песня „Бэроза“, у якой гаворыцца аб багатым сыне і сірацe, не магла не парушыць ніякае сэрца. Яны заспявалі яе па-за конкурсам і не ў аднаго прысутнага выступілі слёзы. Так яно ёсць на свеце, што „па багатым сыну бацька і маці плача, а па сіраціне чорны воран крача“. Бо хто будзе плакаць па сіраце, калі ён выходзіць з роднай вёскі нават назаўсёды.

Калі я слухаю беларускую песню, у мяне змяняецца характар — я раблюся добрым і тады ўсім усё прабачаю. Вось яны — беларускія песні ствараюць нанава людзей — робяць іх добразычлівымі, спачувальнымі на чужую крыўду. Яны размягчаюць нашы цвёрдыя часта сэрцы.

**В. Петручук**

## ГЭТА СТРАШНА!

У Гайнаўцы, калі ў яе ўязджаць цягніком з боку Белавежы, на адрэзку паміж чыгуначнай дарогай на Чаромху і віядуктам, налева растуць сосны. Ды што зрабілі з імі навакольныя жыхары!? Кожнае дрэва мае падсечаны пень. А дзеецца гэта так: камусьці не хапае лучыны, бярэ сякеру ў рукі, ідзе да сосен і насякае сабе крыху шчэпак. Яны смольныя, добра гараць. А што гэта звычайнае варварства, ніхто не задумваецца.

Неабходна, каб гэтай справай зацікавіліся гарадскія ўлады і міліцыя. Такое варварства ў перыяд, калі ахова прыроды стала неабходнасцю, не павінна застацца бяскарным.

**П. Байко**




## Спатканне

*Ты — не ты?*
*Сон — не сон?*
*Мы — ява.*
*Спатканне ў дарозе —*
*Не верым сваім вачам.*
*Гэта праўда, што*
*Гара з гарой не зыйдзецца,*
*А чалавек з чалавекам...*
*Усміхаемся...*
*Шчаслівы я і ты,*
*Глядзім сабе ў вочы.*
*Забыліся мы на некалькі гадзін*
*Аб мяжы, якая калісьці*
*Між намі вырасла*
*Ў пяць мінут...*
*Расстанне цяжкае, поціск рукі.*
*Застаецца ўспамін*
*І думка, калі спаткаемся,*
*Ці гэта будзе, як цяпер,*
*У доўгай дарозе...*

**Майка**

## Мужу

Ты —
ты мяне на ўсё жыццё
змяніў
І паддалася я бязвольна
паслухмяна
як дзяўчынка — жанчына
я пайшла ў жыццё
плячо ў плячо
з табой
назаўсёды.

**Анна Глібоўская**

## Лепш саліць агуркі, чым дарогу

Калі гэтая заметка паявіцца на старонках „Нівы“, праблема напэўна ўжо сама вырашыцца. Але ўсё-такі трэба аб гэтым напісаць, каб у будучыні пазбегнуць падобных клопатаў.

Сёлетняй зімой дарожная служба пасыпала пяском, а потым соллю (каб не замярзала і не было слізка) адрэзак шашы з Гайнаўкі ў Белавежу. Дзякуючы гэтаму на шашы паявілася столькі ямак і ўзгоркаў, што праехаць па ёй аўтамабілем было амаль немагчыма. У чалавека проста кішкі абрываліся, а ў аўтамабіляў ламаліся рэсоры. Хтосьці ўзяўся за давядзенне шляху да якога-такога парадку, ды дзе там! Неяк выйшлі на шашу два спіхачы, ды нічога яны добрага не зрабілі, а толькі, праязджаючы па шашы, гусеніцамі яшчэ больш яе знявечылі.

Просьба да дарожнікаў на наступныя гады: не рабіце больш такой камедыі! Пасыпанне дарогі соллю не прыносіць ніякай карысці. Не паляпшае яно язды, ды і не карысна ўплывае на дрэвы, якія растуць побач (а трэба памятаць, што шлях з Гайнаўкі ў Белавежу вядзе праз краявідны запаведнік). Трэба часцей праціраць дарогу снегачыстамі, і ўсё будзе ў парадку.

**П. Байко**

## 15 гадоў КГВ у Шымках

У Шымках гміны Міхалова адбылася мілая ўрачыстасць — 15-годдзе мясцовага гуртка вясковых гаспадынь. Калі гурток у вёсцы толькі арганізаваўся, прыступіла да яго ўсяго 25 жанчын. Але жанчыны адразу ўзяліся за вучобу: курсы па хатняй гаспадарцы, шыцця і кройкі, рацыянальнага харчавання і г.д. Курсы такія вельмі многаму навучылі жанчын, з чаго надта задаволены былі іх мужы.

Арганізавалі таксама вучобу іншага роду: тэмы па санітарнай асвеце, гігіене вёскі, гігіене і парадку сядзібы і дома. Таксама конкурсы па сельскагаспадарчай вытворчасці, на найлепшы агародчык і г. д.

Супрацоўніцтва з сельскагаспадарчым гуртком у іх вельмі добрае. Таксама супрацоўнічаюць са спулдзельчым банкам і ГСам у Міхалове.

Урачыстасць 15-годдзя збеглася з заканчэннем курсу грамадска-палітычнага навучання жанчын. 52 жанчыны прынялі ў курсе ўдзел і паспяхова яго закончылі.

КГВ у Шымках мае ўласную сядзібу і вядзе пазычальню посуда. Гурток налічвае цяпер 57 членаў, а яго старшынёй з'яўляецца Вера Раманчук. Гэта адзін з найлепшых жаночых гурткоў гміны, а іх планы прадбачаць яшчэ большы размах у працы, між іншым, экскурсію ў спецыялістычныя гаспадаркі, сельскагаспадарчую школу для жанчын, большы ўдзел у грамадскіх пачынах.

**Мікалай Грэсь**

## Прыклады мокрай работы

Прыклад І. Ужо некалькі гадоў прайшло, як у Тафілаўцах Дубіцкай гміны будуецца святліца з рамізай і на канец зімы, казалі, будзе гатовая. Ужо канец прыйшоў зіме, а ўсё застаецца на месцы. Праўда, раміза нядаўна была закончана, перанеслі ў яе ўсе пажарныя прылады, але святліца? На выгляд нібы гатовая. Ды засталіся адны толькі дробязі. І тут патрэбна праца саміх сялян. Але тафілаўцам не хочацца папрацаваць кожнаму па пару гадзін, каб было ўсё гатовае. Ці ж няма ў вёсцы каму імі пакіраваць?

Прыклад ІІ. Падобнае творыцца і ў Тапарках Кляшчэлеўскай гміны. Летам мінулага года моладзь вёскі абавязалася закончыць будынак рамізы са святліцай да зімы. Узяліся за працу і хутка зруб паставілі, без даху. І ўсё. І сёння толькі адны сцены тырчаць. І зіма прайшла, і колькі яшчэ зім пройдзе?

А мо б узняліся людзі на супольную працу? Ах, ах, яны, пэўна, глядзяць на суседнюю вёску Сакі, дзе ўжо 15 ці 16 гадоў, як сяляне зрабілі вялікі фундамент будынка рамізы-святліцы, а сёння ён толькі страшыць людзей, бо выглядае, як абаронны бункер.

**П. Д.**

### ЦЁМНЫЯ ВАГОНЫ

Калі вечарамі еду цягніком, мяне заўсёды нервуе наступны факт. У цэлым вагоне гарыць толькі адна лямпачка. Вядома, што яна не можа асвятліць усіх купэ. А калі, напрыклад, з Беластока ў Белавежу едзеш больш-менш 3 гадзіны, чалавек хоча пачытаць кніжку ці газету, ды што-небудзь запісаць і не можа. Няма выбару, трэба толькі драмаць.

Вядома, што мы павінны ашчаджаць электраэнергію. Ды здаецца, нашы чыгуначнікі пачалі перабіраць меру.

**П. Байко**

Факт, калі ў вагоне гарэла адна лямпачка, асабіста сцвярджаю я, між іншым, 9 і 25 лютага ў вячэрнім цягніку з Беластока ў Белавежу.

### ДОБРЫ УЧЫНАК

У Бабіках Шудзялаўскай гміны гарцэры з мясцовай школы ў дзень 8 сакавіка зайшлі ў кожную хату, перадалі сардэчныя пажаданні ўсім жанчынам — маладым і старэнькім бабулям, і ўсім уручылі прыгожа намаляваныя кветкі з напісанымі ўласнаручна пажаданнямі. Некаторым бабулям ад радасці аж слёзы пацяклі з вачэй.

Надта прыгожы ўчынак вучняў бабіцкай школы!

**Э. Шчасновіч**




## Наш герой — Дзядзька Квас!

Кожны з нас мае сваіх герояў — з фільмаў, з кніжак, а нават са штодзённага жыцця. Ёсць і супольныя героі. Аб іх гаворыцца часта, пры кожнай нагодзе. А вось Дзядзька Квас! Ён з'яўляецца сапраўдным героем „Нівы“, усіх нас — чытачоў і сімпатыкаў яго вершаванага слова, якое заваявала і заваёўвае сэрцы тысяч людзей. Дзе б не быў, з кім не гаварыў, кожны пытае пра яго — пра Дзядзьку Кваса: хто ён такі, адкуль родам, дзе працуе. Такія пытанні задавалі і задаюць мне людзі розных прафесій і ўзростаў. А я і не змог на іх адказаць. І зараз, прызнаюся шчыра, не бачыў я гэтага чалавека ў вочы, хоць з „Нівай“ супрацоўнічаю дваццаць гадоў. Спадзяваўся сустрэць яго ў гэтым годзе на з'ездзе карэспандэнтаў. І зноў не пашчаслівілася. Дзядзька Квас, замест прыехаць, прыслаў нам верш, які змясціла „Ніва“ ў 10 нумары ад 5 сакавіка.

Але гэты новы твор нашага любімца заахвоціў мяне напісаць пару слоў. У вершы Дзядзькі Кваса „Замест слова ў дыскусіі“, які ён прысвяціў сябрам-карэспандэнтам, Дзядзька Квас робіць ацэнку многіх вядомых супрацоўнікаў „Нівы“ — нашых сяброў па пяру. Яго ацэнка не мінула і маёй асобы. Дзякуй вам за гэта, Дзядзька Квас! Трэба сказаць, што ацэнка вельмі трапная. Аб тым, што многія з нас не сістэматычна пішуць, гаварылася і на з'ездзе. Успамінае аб гэтым у сваім творы і Дзядзька Квас:

...Што Крыніца памяльчэла,
Бы на мелі Сядзем села,
Вірскі слаба штосьць віруе,
К-ус, Янтар яму ўтаруе.

Фактычна, даўно не сустракалі мы тых карэспандэнтаў на старонках „Нівы“. Чаму? Мо верш Дзядзькі Кваса і мой артыкул прабудзіць іх да жыцця! А мо вясна, зелень траў прынясуць натхненне да пісання.

Хачу прызнацца, да такіх гультаёў і мяне калісьці залічвалі. Напрыклад, на працягу некалькіх месяцаў у мінулым годзе. Аднак сапраўднае пачуццё грамадскага абавязку прабудзіла ў мяне далейшую актыўнасць карэспандэнта. Зараз уперадзе іду, як піша аўтар верша:

Як прыкладны беларус,
Йдзе ўпярод таранам ус.

На заканчэнне хачу падбадзёрыць усіх сябраў-карэспандэнтаў на актыўнае супрацоўніцтва з „Нівай“. І вы, Дзядзька Квас, не саромцеся, пішыце часцей. Мо ваша знікненне было прычынай, што „Крыніца памяльчэла і на мелі Сядзем села“?..

**Ул. Сідарук**

## ПРОСТА — ЧАЛАВЕК

У кіламетры ад Нараўкі ў напрамку чыгуначнай станцыі, ля шашы, разлажылася маленькая вёсачка Гарадзіска. Тут жыве з жонкай і ўнукам пенсіянер Андрэй Трусевіч. Так, ён ужо пенсіянер, але, як і даўней, грамадскі дзеяч. Працуе ў гміннай рэвізійнай камісіі ПАРП, актыўны ў ОРМО. Яго здымак вісіць сярод найлепшых працаўнікоў мясцовага ГС-у. І гэта не выпадкова.

Жыццё і праца гэтага чалавека ад пачатку звязаны з сельскімі кааператывамі, іх узнікненнем і дзейнасцю. Шмат часу прайшло, і ёсць многа цікавых успамінаў. Дарога яго працы вяла праз Бельск, Белавежу ў Нараўку. У цяжкі пасляваенны час трэба было давозіць тавары. Трэба было адвозіць грошы. І дома не начаваць часта, бо ноч магла прынесці бяду. Банды не абміналі Нараўку. Тут шмат людзей было расстраляна на скрыжаванні вуліц.

І вось таварыш Андрэй Трусевіч стаў ініцыятарам пабудовы помніка. Супольна з грамадскімі ўладамі дасягнуў мэты. Цяпер, штодзень праходзячы, і жыхары, і турысты ўспомняць тых, хто загінуў за нашу ўладу. Немагчыма ў кароценькім артыкуле апісаць усё жыццё гэтага заслужанага чалавека. Наша дзяржава высока ацаніла дзейнасць Андрэя Трусевіча. Ён узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы. Але самае важнае, як гаворыць сам таварыш Трусевіч, гэта тое, што жыццё не змарнаваў. Цешыць і тое, што, ці быў ён прэзасам ГС, ці цяпер на пенсіі, людзі радасна вітаюць яго на кожным кроку.

**А. З.**

## ЧАМУ І КАМУ?

Клуб „Руху“ ў Луцэ знаходзіўся ў невялікім, праўда, будынку, але ў асобным памяшканні, і яго зусім хапала лучанскай моладзі. Магла яна збірацца, гутарыць, слухаць магнетафон і гэтак далей.

Аднак па нейкіх прычынах клуб перавялі ў другое памяшканне, у хату клубовай. І цяпер прыдзе сюды дзесяць асоб — і ўжо цэлы клуб запоўнены. Ці сапраўды ў Луцэ аж так трэба было зрабіць з клубам?

**Кара-кум**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „СПАРТЫЎНАЯ ПЛЯЦОЎКА Ў СПІЧКАХ“, „Ніва“ № 29/1116 ад 17 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: RADA GMINNA ZRZESZENIA LUDOWE ZESPOŁY SPORTOWE W ORLI.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Boisko sportowe w Spiczkach'' zamieszczona w 29/1116 z dnia 17.07.1977 roku wyjaśnia co następuje:

Sprawę placu pod boisko sportowe we wsi Spiczki rozpatrzy technik budowlany Urzędu Gminy w Orli — Mikołaj Murawski.

Urząd Gminy w Orli na sprzęt sportowy dla kół LZS przeznaczył 4 000 zł. Koło LZS w Spiczkach jest mało aktywne i nie zgłaszało się w sprawie przydziału mu sprzętu sportowego. Sprzęt przekazujemy w pierwszej kolejności prężnym ogniwom LZS, które biorą aktywny udział we wszystkich imprezach sportowych organizowanych przez Wojewódzkie Zrzeszenie LZS w Białymstoku.

**Gminny Inspektor**
**Wojewódzkiego Zrzeszenia LZS**
**w Białymstoku**
**z siedzibą w Bielsku Podlaskim**
**Mikołaj Gonta**

**Да публікацыі „МЯШАНКА СА ШКЛОМ“, „Ніва“ № 6/1145 ад 5 лютага 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA'' — MIESZALNIA PASZ W SOKÓŁCE.**

Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska'' — Mieszalnia Pasz w Sokółce informuje, że koncentrat paszowy „Provit'' pochodził z naszej produkcji. Kawałek szkła mógł znaleźć się w otrzymywanych przez Mieszalnię Pasz surowcach, a w czasie produkcji w zakładzie elektromagnesy nie wychwyciły go (szkła nie wychwytują) i przez sita mógł dostać się do mieszanki paszowej.

Za pośrednictwem Redakcji serdecznie przepraszamy rolnika, który nabył ten asortyment mieszanki z „dodatkiem''. Zapewniamy, że dołożymy starań, aby tego rodzaju przypadki nie powtórzyły się.

**Kierownik**
**Edward Kozłowski**

„Niwa'' — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch''. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch'', urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

